

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***


# наша слова






Газета выходзіць з сакавіка 1990 года  № 15 (701)  20 КРАСАВІКА 2005 г.


# Чарговая Рада ТБМ

**24 красавіка (нядзеля) аб 11-й гадзіне** ў сядзібе ТБМ адбудзецца Рада ГА "ТБМ імя Францішка Скарыны".

На Раду выносяцца наступныя пытанні:

1. Аб правядзенні чарговага з'езду ТБМ і вызначэнне квотаў дэлегатаў на з'езд.
2. Аб рашэнні Вярхоўнага Суда Беларусі па абскарджанні папярэджання Міністэрства юстыцыі.
3. Аб закрыцці арганізацый, якія не маюць юрыдычнага адрасу.
4. Рознае.

## V справаздачна-выбарная Асамблея ТБШ

РГА "Таварыства беларускай школы" інфармуе сваіх сяброў і прыхільнікаў, што V справаздачна-выбарная Асамблея ТБШ адбудзецца **23 красавіка** 2005 г. у Менску а 12 гадзіне ў памяшканні ТБМ (Румянцава, 13). Норма прадстаўніцтва – 2 дэлегаты ад кожнай вобласці і г. Менска, сябры Наглядальнай Рады, Канцылярыі, Рэвізійнай камісіі. Дэлегаты і ўдзельнікі Асамблеі запрашаюцца на аглядны канцэрт фальклорнага ансамбля, які адбудзецца а 15 гадзіне ў актавай зале 5 корпуса БДПУ імя Максіма Танка (вул. Магілёўская, 37). Аглядны канцэрт дае пераможца за-вочнага конкурса ТБШ, якому будзе ўручана скіраванне на міжнародны фальклорны фестываль, што ад-будзецца ў Францыі летам 2006 г.

# Дні культуры Астаны ў Менску пачаліся па - беларуску

12 красавіка ў 19.00 у сталічным Палацы Рэспублікі ўрачыста адкрыліся дні Астаны - сталіцы Казахстана - у Менску.






Мэр Астаны, які адкрыў вечарыну, аздобіў свой выступ некалькімі беларускімі фразамі, прагучала, нават, беларуская песня ў выкананні казахскіх артыстаў. Але не гэта ўразіла на той вечарыне. Уразілі вядоўцы, якія пачалі канцэрт на дзвюх мовах: казахскай і беларускай, а пасля цалкам перайшлі на беларускую.

У вымаўленні прарazaўся казахскі акцэнт, але ён рабіў вечарыну яшчэ больш каларытнай і выклікаў яшчэ большую павагу да казахаў, якія паказалі, што ўмеюць шанаваць чужое, бо шануюць і берагуць сваё.

***Наш кар.***

# У МЕНСКУ АДБЫЛАСЯ ПРЭЗЕНТАЦЫЯ НОВАГА БІБЛІЯГРАФІЧНАГА ВЫДАННЯ — "БЕЛАРУСКАЕ МОВАЗНАЎСТВА"

12 красавіка ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Я.Коласа (ЦНБ) Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі адбылася прэзентацыя новага бібліяграфічнага выдання — "Беларускае мовазнаўства". Новы паказальнік — вынік сумеснай працы ЦНБ і навукоўцаў Інстытута мовазнаўства імя Я.Коласа Акадэміі навук.

Як паведаміла на прэзентацыі адзін з укладальнікаў выдання Алена Траццякова, гэта чацвёрты выпуск выдання. Першы выйшаў у 1967 годзе (бібліяграфічныя звесткі за 1825—1965 гады), другі — у 1980-м (1966—1975 гады.), трэці ўбачыў свет у 1993 годзе (звесткі за 1976—1985 гады).

Па словах А.Траццяковай, супрацоўнікі бібліятэкі і інстытута "не лічыліся з часам і падрыхтавалі выданне за тры месяцы". У новым паказальніку з'явіўся новы раздзел "Моўная палітыка". "З'яўленне гэтага раздзелу тлумачыцца шквалам публікацый па праблемах беларускай мовы ў канцы 80-х — пачатку 90-х гадоў, — сказала укладальнік. — У новым выданні ёсць і недасканаласць, пра якую можна сказаць адразу. Паказальнік змяшчае толькі частку замежных публікацый па беларускім мовазнаўстве. На гэта ёсць як аб'ектыўныя, так і суб'ектыўныя прычыны".

Акрамя выдання паказальніка ЦНБ таксама падрыхтавала электронную версію базы дадзеных па беларускім мовазнаўстве, дзе крыніцы дадзеных абнаўляюцца кожны дзень. У базе знаходзяцца як афіцыйныя дакументы, так і іншыя звесткі. Акадэмік Аляксандр Падлужны адзначыў, што ў новым паказальніку з'явіліся імёны, якія раней былі забароненыя да згадвання. Ён таксама пажадаў большага асвятлення замежных прац па беларускім мовазнаўстве.

Аўтары паказальніка падкрэслілі, што база дадзеных для новага выдання, якое ахопіць наступныя пасля 1991-га гады, падрыхтавана, "пытаненне толькі ў фінансах".

***Генадзь ШАРЫПКІН.***

# Да 220-годдзя
## Зарыяна Даленгі - Хадакоўскага



*Слова пры адкрыцці канферэнцыі мае загадчык НДЛ беларускага фальклору БДУ Васіль Ліцьвінка*



*Прамаўляе прафесар кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта Алесь Баршчэўскі*

14-15 красавіка на філалагічным факультэце БДУ праходзіла 11-я міжнародная навуковая фальклорна-этналінгвістычная канферэнцыя "Комплекснае даследаванне фальклору і этнакультуры Палесся" з нагоды 220-годдзя Зарыяна Даленгі- Хадакоўскага (Адама Чарноцкага, 1784-1825).

Адкрыў канферэнцыю дэкан філалагічнага факультэта, доктар філалагічных навук Іван Роўда.



*Палескую песню выконвае Наталля Матыліцкая (Скобла)*

На плянарным пасяджанні прагучалі даклады прафесара кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, доктара філалагічных навук **Алеся Баршчэўскага**, загадчыка кафедры славянскіх літаратур БДУ, доктара філалагічных навук, прафесара **Івана Чароты**, загадчыка кафедры гісторыі беларускай мовы БДУ, доктара філалагічных навук прафесара **Мікалая Прыгодзіча** і рэдактара газеты "Наша слова" ды часопіса "Лідскі летапісец" **Станіслава Судніка.**



*Баладу Яна Чачота выконвае Пятро Русаў*

На чатырох секцыях было заслухана яшчэ каля 40 дакладаў з больш, чым 90 падрыхтаваных. У самай шырокай плоскасці былі паднятыя роля З. Даленгі-Хадакоўскага ў захаванні фальклору і этнакультуры Палесся, а таксама праблемы фальклору і этналінгвістыкі апошняй прарадзімы славян. Адной з высноваў канферэнцыі сталася цверджанне, што ахова нематэрыяльнай культуры Палесся мусіць стацца клопатам не



*Танцуе Мікола Котаў*



*Выступае фальклорны гурт "Крэсіва"*

толькі беларускай дзяржавы, але і міжнароднай супольнасці.

Падчас канферэнцыі адбылася прэзентацыя кнігі Васіля Ліцьвінкі: "Ян Чачот. Спевы пра даўніх ліцьвінаў да 1434 года", а таксама былі прадстаўлены нумары жывога палескага фальклору ў выкананні самадзейных і прафесійных артыстаў.

***Яраслаў Грынкевіч.***

Алесь ЛОЗКА, *старшыня РГА "Таварыства беларускай школы"*

# ГОМЕЛЬШЧЫНА І МАГІЛЁЎШЧЫНА ЗМЯНЯЕ КУРС ?

***АБ СТАНЕ БЕЛАРУСКАМОЎНАГА НАВУЧАННЯ Ў 2004/05 н. г.***

На пачатку назавём асноўныя лічбы і факты агульнага стану навучання. Усяго ў Беларусі на пачатак навучальнага года 4209 (было 4317. тут і далей у дужках для параўнання будзем падаваць мінулагодняя звесткі) дзённых школ дзяржаўнай уласнасці, у якіх 1 282 823 (1 347 398) вучні. У тым ліку 17 устаноў знаходзіцца ў падпарадкаванні Міністэрства аховы здароўя, па аднаму ў міністэрствах працы і сацыяльнай абароны, культуры, па надзвычайных сітуацыях і абароны, астатнія - у Міністэрстве адукацыі. Больш вучняў (2 234) у вучэльнях алімпійскага рэзерву Міністэрства спорту і турызму, Суворайскай ваеннай вучэльні Міністэрства абароны (471), у вучэбным комплексе (з беларускай мовай навучання) гімназія-каледж мастацтва Міністэрства культуры (295). Толькі 12 дзённых агульнаадукацыйных устаноў - недзяржаўнай формы ўласнасці, дзе навучаецца 832 (873) вучні.

Застаецца вялікая частка дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця (9 480, тэндэнцыя на павелічэнне), а таксама, якія па стану здароўя аднесены да спецыяльнай медыцынскай групы (57 473, 4,5% ад агульнай колькасці вучняў); дзяцей-інвалідаў (11 249).

Сёлета 90 816 (86 786) вучняў атры-малі атэстат аб сярэдняй адукацыі, з іх 1 461 (783) – залаты медаль (1,6 % ад атрымаўшых атэстаты), 2 204 (1 569) – сярэбраны. На другі год навучання пакінуты 725 вучняў.

***Далей працягнем аналіз стану беларускамоўнага навучання. Параўнаем* колькасць вучняў, што навучаюцца на розных мовах.**

| *Навуч. год* | *Па-бел.* | *%* | *Па-рус.* | *%* | *Па-поль.* | *Па-літ.* |
|---|---|---|---|---|---|---|
| ***2004-2005*** | ***301250*** | ***23,8*** | ***962549*** | ***76,1*** | ***656*** | ***75*** |
| ***2003-2004*** | ***329602*** | ***24,8*** | ***997146*** | ***75,1*** | ***694*** | ***75*** |
| ***2002-2003*** | ***364250*** | ***26,3*** | ***1020041*** | ***73,6*** | ***804*** | ***75*** |
| ***2001-2002*** | ***400869*** | ***27,8*** | ***1039174*** | ***72,1*** | ***870*** | ***71*** |
| ***2000-2001*** | ***453012*** | ***29*** | ***1062424*** | ***70,9*** | ***903*** | ***78*** |
| ***1999-2000*** | ***463371*** | ***30*** | ***1081798*** | ***70*** | ***874*** | ***76*** |

*У 188 школах 8859 вучняў вывучаюць родную мову нацыянальных меншасцяў: 8439 - польскую, 284 – яўрэйскую, 90 - украінскую, 46 - літоўскую.*

За кошт маралікіх пачатковых і базавых школ у вёсках атрымліваецца трохі большы адсотак адукацыйных устаноў з беларускай мовай навучання (59.2), але і ён год ад году памяншаецца.

**Школы з адпаведнай мовай навучання (усяго –4104)**

| | *Беларуск.* | *%* | *Рускамоўн* | *%* |
|---|---|---|---|---|
| ***1999-2000*** | ***2847*** | ***61,7*** | ***1147*** | ***24,8*** |
| ***2000-2001*** | ***2822*** | ***61,9*** | ***1201*** | ***26,3*** |
| ***2001-2002*** | ***2773*** | ***61,5*** | ***1266*** | ***28,1*** |
| ***2002-2003*** | ***2621*** | ***60,5*** | ***1294*** | ***29,9*** |
| ***2003-2004*** | ***2503*** | ***59,5*** | ***1337*** | ***31,8*** |
| ***2004-2005*** | ***2428*** | ***59,2*** | ***1366*** | ***33,3*** |

| | *Бел.-руск.* | *%* | *Польск..* | *Літоўскам.* |
|---|---|---|---|---|
| ***1999-2000*** | ***620*** | ***13,4*** | ***1*** | ***1*** |
| ***2000-2001*** | ***533*** | ***11,7*** | ***2*** | ***1*** |
| ***2001-2002*** | ***464*** | ***10,3*** | ***2*** | ***1*** |
| ***2002-2003*** | ***417*** | ***9,6*** | ***2*** | ***1*** |
| ***2003-2004*** | ***366*** | ***8,7*** | ***2*** | ***1*** |
| ***2004-2005*** | ***307*** | ***7,5*** | ***2*** | ***1*** |

Паменшылася школ з беларускай мовай навучання на 3 % у параўнанні з мінулым годам, а рускамоўных павялічылася на 2,2 %. У сумнавядомы 1995 год было пераведзена 108 школ на рускую мову навучання і, у тым ліку, 91 у вёсцы. Асаблівыя змяненні беларуская школа церпіць у апошнія "мірныя" гады. Знішчэнне яе вядзецца хуткімі тэмпамі, якіх не ведала наша гісторыя. Афіцыйна змяненні тлумачацца тым, што гэта адбываецца "ў сувязі з закрыццём школ, іх рэарганізацыяй, адкрыццём новых школ". Такім чынам, у 2002/03 нав. годзе адразу 152 школы з беларускай мовай навучання скончылі сваё існаванне (а ўсяго зачынена 184 школы), у мінулым зноў мы не далічылі 118 школ з беларускай мовай навучання і 51 - з двума (усяго 169). Рускамоўных не турбуе праблема "неперспектыўнасці" як беларускамоўных малакамплектных вясковых школ. Такія школкі функцыянавалі ў самыя цяжкія гады вайны, голаду, разрухі.

***У наступнай табліцы зафіксуем* змяненні ў сетцы школ за апошнія два навучальныя гады *па рэгіёнах (адпаведна 2004/2005 і 2003/2004 навучальныя гады).***

| | *З белар. мовай* | *З рускай мовай* | *З дзвюмя* |
|---|---|---|---|
| *г. Менск* | ***-3/змен няма*** | ***19/15*** | ***-16 / -16*** |
| ***Брэцкая*** | ***-13 / -16*** | ***9 / 8*** | ***-10 / -8*** |
| ***Віцебская*** | ***-15 / -19*** | ***10 / 1*** | ***-10 / 4*** |
| ***Гомельская*** | ***-2 / -12*** | ***-5 / -1*** | ***-1 / -2*** |
| ***Гродзенская*** | ***-22 / -25*** | ***9 / 11*** | ***-9 / -12*** |
| ***Менская*** | ***-25 / -28*** | ***2 / 7*** | ***-10 / -5*** |
| ***Магілёўская*** | ***5 / -17*** | ***-15 / 1*** | ***-2 / -4*** |
| ***Рэспублік.*** | ***Змен няма / -1*** | ***змен няма / 1*** | ***-1 / змен няма*** |
| *Разам* | *-75 (-3 5%) /-118(-4,5%)* | *29(2,2%) /43 (3,3%)* | *-59(-16,1%) / -51 (-12,2%)* |



У мінулыя гады мы ў адносна станоўчым плане адзначалі Гродзенскую і Мінскую вобласці, то цяпер – не. Дайшла і да іх чарга русіфікацыі, дзе больш пераводзіцца школ з беларускай на рускую мовы. Нават у сталіцы Беларусі тры такія школы згублены. Цікавая сітуацыя складваецца ў найбольш адсталых рэгіёнах – Магілёўскім і Гомельскім. Магчыма тут наглядаецца феномен мяжы, калі далей ісці нельга. Упершыню за колькі год на Магілёўшчыне, напрыклад, павялічылася на 5 школ з беларускай мовай навучання, а рускіх – паменшылася на 15. Падобнае адлюстроўваецца і ў наступнай табліцы.

**Размеркаванне вучняў (% ад агульнай колькасці), якія займаліся па-беларуску**

| | *94\95* | *95\96* | *96\97* | *97\98* | *98\99* |
|---|---|---|---|---|---|
| ***г. Менск*** | ***21*** | ***17.7*** | ***15.4*** | ***13.4*** | ***11.2*** |
| ***Брэсцкая*** | ***44*** | ***39.2*** | ***35.7*** | ***33.4*** | ***32*** |
| ***Віцебская*** | ***35.9*** | ***28.5*** | ***26.9*** | ***26.2*** | ***25.2*** |
| ***Гомельск.*** | ***43.4*** | ***26.1*** | ***23.3*** | ***21.9*** | ***20.7*** |
| ***Гродзенск*** | ***50.7*** | ***50.8*** | ***51.3*** | ***51.5*** | ***51*** |
| ***Менская*** | ***54.6*** | ***55.3*** | ***55.8*** | ***54.5*** | ***54.4*** |
| ***Магілёўск*** | ***34.6*** | ***27.5*** | ***23.8*** | ***22.6*** | ***22.1*** |
| Усяго | *29.4* | *27.8* | *32 9* | *31.6* | *30.5* |

| *99\00* | *00\01* | *01\02* | *02\03* | *03/04* | *04/05* | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| ***9.5*** | ***8.4*** | ***7.3*** | ***6.4*** | ***5.1*** | ***4.2*** | ***Менск*** |
| ***30.7*** | ***30.2*** | ***28.8*** | ***27.6*** | ***26.9*** | ***26.4*** | ***Брэсц*** |
| ***25.9*** | ***24.5*** | ***23.8*** | ***23*** | ***23.1*** | ***21.5*** | ***Віцеб*** |
| ***20.4*** | ***20.3*** | ***19.8*** | ***18.9*** | ***18.4*** | ***18.6*** | ***Гомел*** |
| ***50.3*** | ***48.3*** | ***45.9*** | ***41.9*** | ***38.1*** | ***35.2*** | ***Гродз*** |
| ***54*** | ***52.6*** | ***50.8*** | ***47.9*** | ***44.5*** | ***42.6*** | ***М-кая*** |
| ***22.9*** | ***21.6*** | ***21*** | ***20.8*** | ***19.9*** | ***20.5*** | ***Магіл*** |
| *30* | *29* | *27.8* | *26.3* | *24.8* | *23.8* | Усяго |

Хоць у цэлым і павялічыўся адсотак вучняў, якія займаюцца па-беларуску ў Гомельскай і Магілёўскай абласцях, аднак гэта не адбілася на колькасці вучняў. Напрыклад, на Гомельшчыне (без уліку школ з двума мовамі) ў мінулым годзе навучалася на роднай мове 17,3% (36 265) школьнікаў, а сёлета нават 17,9%, але гэта складае толькі - 35 900. Некаторае павелічэнне наглядаецца дзякуючы змяншэнню агульнай колькасці навучэнцаў (у азначаным рэгіёне ён складае 200 729, было - 209 414).

Асабліва яскравую карціну стану і перспектыў нашай школы дае табліца дынамікі прыёму для навучання на роднай мове ў падрыхтоўчыя (першыя) класы. Заўважым, што ўпершыню за колькі год тут пазначыліся некаторыя якасныя змены. У мінулым годзе павялічыўся % прыёму ў падрыхтоўчыя класы з беларускай мовай навучання Мінск, Брэсцкая і Віцебская вобласці, сёлета – астатнія. Але зноў жа і тут наглядаецца тая ж сітуацыя: у колькасным выяўленні росту няма.

| ***Вобл.*** | ***91/92*** | ***92/3*** | ***93/4*** | ***94/5*** | ***95/6*** | ***96/7*** | ***97/8*** |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| *г. Мінск* | *19.2* | *48.3* | *58.6* | *58* | *19.5* | *12.1* | *7.3* |
| *Брэсцк.* | *52.1* | *76* | *79.7* | *79.5* | *37* | *30.5* | *27.3* |
| *Віцебск.* | *34.4* | *58.1* | *65.5* | *62.3* | *28.9* | *26.2* | *25.3* |
| *Гомельс.* | *33.1* | *72.3* | *75.7* | *82.8* | *26.1* | *22.6* | *22.1* |
| *Гродзен.* | *77.3* | *82.9* | *87.5* | *86.9* | *61.4* | *50.8* | *44.1* |
| *Мінская* | *63.6* | *86.9* | *92.6* | *91.3* | *67.8* | *61.4* | *52.9* |
| *Маг-кая* | *30.5* | *53* | *72.8* | *65.1* | *25.8* | *22.9* | *23* |
| **Усяго** | **43.7** | **68.5** | **76** | **75.3** | **37.9** | **32** | **28.7** |

| ***98/9*** | ***99/0*** | ***00/1*** | ***01/2*** | ***02/3*** | ***03/4*** | ***04/5*** | ***Вобл.*** |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| *5.3* | *4.3* | *4.3* | *3.8* | *2.9* | **3** | *2.8* | *г. Менск* |
| *24.8* | *29* | *28.8* | *28.1* | *28.2* | **28.3** | *27.1* | *Брэсцк* |
| *21.4* | *26* | *25.4* | *23.7* | *23.4* | **23.7** | *23.6* | *Віцебс* |
| *16.6* | *20.4* | *19.4* | *19.6* | *19.3* | *18.5* | **21.5** | *Гомель* |
| *37.2* | *37* | *34.1* | *31.7* | *27.8* | *26.2* | **26.3** | *Гродз.* |
| *45.2* | *44.1* | *42.8* | *39.5* | *38.2* | *36.1* | **36.4** | *Мін-я* |
| *19.9* | *22.4* | *22.3* | *21.8* | *20.6* | *20.3* | **21.5** | *Магіл.* |
| **33.6** | **26.2** | **25.3** | **24** | **22.8** | **22.4** | **22.7** | **Усяго** |

Напрыклад, у Менску навучалася тры гады таму назад 422 (2,9 % ад агульнай колькасці) дзяцей падрыхтоўчых класаў, у мінулым годзе 404 (3%) а цяпер ужо - 375 (2,8%). Праўда ёсць і прыемнае выключэнне, якое зрабілі Гомельская і Магілёўская вобласці. На Гомельшчыне навучалася па-беларуску 2 639, цяпер - 3 069; на Магілёўшчыне – адпаведна 2 203 і 2 320.

З адзінаццацігодкай (беларуская *мова навучання) сёлета развітваецца 24466 (25080) беларусаў і беларусачак, гэта 25,7 (27,4) % ад агульнай колькасці. Мінулы год быў рэкордным выпускам беларускай школы, далей тэндэнцыя скіроўваецца на паніжэнне. Але і цяпер не малая частка абітурыентаў з беларускамоўных школ будзе змагацца за права навучацца ў сярэдніх спецыяльных і вышэйшых адукацыйных установах. Да іх ліку патрэбна дадаць яшчэ 38255 (25,9%) дзевяцікласнікаў.*

Новы навучальны год не стаў выключэннем больш чым з дзесяцігадовага шэрагу герастратарскага наступу на беларускую школу, шкала яе паніжаецца да крытычнай рысы. Некаторыя змены ў статыстыцы ўсё-такі даюць спадзяванне на тое, што за малымі зменамі могуць адбыцца вялікія. Гісторыя паўтараецца. За беларускай школай – будучыня.

# *Гарадзенскае ТБШ паказвае прыклад*

Выканаўчы сакратарыят Гарадзенскага гарадскога аддзялення РГА "Таварыства беларускай школы" падрыхтавала на правах унутранай дакументацыі бюлетэнь, колькасцю 30 асобнікаў, у якім падведзены вынікі работы гэтага грамадскага аб'яднання ў мінулым годзе.

У раздзеле Пра нас і нашу работу утрымліваецца інфармацыя пра гарадское аддзяленне. Цяпер яно налічвае 17 сталых сяброў, мае 20 валанцёраў і звыш тысячы актывістаў. Падкрэслена, што ТБШ – ідэйны спадкаемцы структуры, якая існавала ў Заходняй Беларусі цягам 1921-1936 гадоў. Тады дзейнасць Таварыства мела толькі на Гарадзеншчыне 12 акруговых Упраў, у тым ліку – Гародні, Лідзе, Навагрудку, Слоніме, Ваўкавыску, Свіслачы, Міры.

Складальнікі бюлетэня на фактычным матэрыяле паказалі работу аддзялення ў 2004 годзе. Гэта сустрэчы, вечарыны, праца з сябрамі школьных бюлетэняў, пасяджэнні за "круглым сталом". Паведамляецца аб мерапрыемствах, удзел у якім бралі сябры ТБШ.

Аддзяленне ганарыцца сваімі многімі сябрамі. У прыватнасці, допісы прысвечаны шаноўным ветэранам адраджэнскага руху прафесару ГрДУ імя Я. Купалы Аляксею Пяткевічу і быламу выкладчыку гэтай ВНУ Мікалаю Мельнікаву.

Актывісты аддзялення падрыхтавалі шэраг інфармацый, якія аб'яднаны агульнай рубрыкай "Пра здабыткі і праблемы". Сярод аўтараў – старшыня Гарадзенскага гарадскога Таварыства беларускай вышэйшай школы (ТБВШ) доктар медыцынскіх навук, прафесар Алесь Астроўскі, старшыня абласнога аб'яднання ТБМ імя Ф. Скарыны Аляксандр Місцюкевіч, ветэран працы Ніна Лідская...

Краязнаўцы атрымаюць цікавыя звесткі з матэрыялаў раздзела "Гістарычная рэтраспектыва". Кандыдат гістарычных навук Андрэй Чарнякевіч паведамляе пра цярністы шлях беларускай школы ў Гародні ў 20-я гады XX-га стагоддзя. Пададзены лічбы і факты з жыцця ТБШ даваеннай пары. Можна даведацца, якія асобы актыўна займаліся беларускім школьніцтвам, колькі школ, бібліятэк, народных Дамоў было ў Заходняй Беларусі, колькасны склад сяброў і гурткоў акруговых Упраў, якія выданні выпускала Таварыства - газеты, брашуры, кнігі. Цікавыя звесткі можна знайсці ў публікацыі "Ведаць, не забываць". Тут гаворка вядзецца аб арганізацыі школьнай справы ў нашым краі ў 1939-1941 гадах.

Выпускніца факультэта журналістыкі Белдзяржуніверсітэта Інга Астраўцова прысвяціла свой выпускны дыплом у тым ліку і беларускамоўным выданням Гарадзеншчыны 1919-1920 гадоў. Плёнам сваіх пошукаў яна дзеліцца з чытачамі ў артыкуле "Уздымалі праблемы беларускай школы".

Аўтарка Яна Запольская падрыхтавала нататку "Рэарганізацыя школы Заходняй Беларусі (1939-1941 і першыя пасляваенныя гады)". Прыводзіцца архіўная даведка аб колькасці школ вобласці па мовах навучання ў азначаны перыяд. У 1949 годзе беларускіх школ было на Гарадзеншчыне 854, рускіх 73, польскіх 17.

Трэба вітаць практыку, калі грамадскае аб'яднанне аналізуе зробленае, па выніках работы за год выдае бюлетэнь. Такі досвед годны пераймання.

***Антон Лабовіч, Гародня.***

# Час, напоўнены здабыткамі

**Гарадзенскаму абласному аддзяленню Саюза беларускіх пісьменнікаў споўнілася 40 гадоў. Жыццёвы лёс прафесара Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы, літаратуразнаўцы, старшыні Гарадзенскай арганізацыі ТБМ Аляксея Міхайлавіча Пяткевіча цесна знітаваны з гэтай грамадскай структурай. Як дасведчаная асоба, ён адразу ўдакладняе:**

— Аддзяленне Саюза пісьменнікаў існавала на Гарадзеншчыне цягам 1946-1948 гадоў. Тым разам аб'ядналі высілкі Уладзімір Дадзіёмаў, Міхась Васілёк, Зінаіда Бандарына. Узначальваў аддзяленне адказны сакратар Анатоль Астрэйка. Яго спецыяльна камандзіравалі з Менска ў першы пасляваенны год для арганізацыі творчай структуры. Ён працаваў літаратурным кансультантам у абласной газеце "Гродзенская праўда". На жаль, у хуткім часе пісьменнікі, за выключэннем Васілька, пераехалі на сталае жыццё ў сталіцу і аддзяленне перастала існаваць.

**— Вы назвалі прозвішчы Бандарынай, Дадзіёмава. Сёння мала хто ведае пра гэтых творцаў...**

— Зінаіда Аляксандраўна Бандарына (1909 - 1959) нарадзілася ў Гародні. Вядомая як паэтка, празаік, нарысіст. Вучылася ў Белпедтэхнікуме, настаўнічала, працавала ў газеце "Палеская праўда". Скончыла аспірантуру Акадэміі мастацтваў у Ленінградзе. Была саніструктарам на фронце. Супрацоўнічала ў часопісе "Бярозка", на Беларускім радыё. Узначальвала Дом народнай творчасці ў Гародні, філіял музея Янкі Купалы ў Вязынцы. Працавала ў рэдакцыях газет "Зорька", "Літаратура і мастацтва". Выдала зборнік паэзіі "Веснацвет", аповесці "Галіна Ільіна", "Ой рана на Івана" (пра Янку Купалу), зборнік апавяданняў "Лясныя госці". Жывучы ў Гародні, напісаў на мясцовым матэрыяле раман "Над Нёманам".

Уладзімір Ільіч Дадзіёмаў (1924 - 1983) вучыўся ў Менскім Камуністычным інстытуце журналістыкі імя Кірава. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, паранены. Узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі, медалямі. Вучыўся ў Гарадзенскім педагагічным інстытуце. Быў супрацоўнікам газеты "Чырвоная змена", Беларускага радыё, уласным карэспандэнтам "Литературной газеты".

Бандарына і Дадзіёмаў былі прыняты ў Саюз пісьменнікаў у сярэдзіне 50-х гадоў. І гаварыць пра сталую працу аддзялення СП у Гародні ў пасляваенны час не выпадае. Проста трэба было арганізаваць літаратурнае жыццё у заходнім рэгіёне. Тым не менш, імёны гэтых асобаў мы ўзгадваем з удзячнасцю.

**— У часы Заходняй Беларусі Гарадзеншчына таксама была багатая талентамі. Таго ж Міхася Васілька і сёння памятаюць у многіх паселішчах, дзе яму ўдавалася выступаць з чытаннем сваіх вершаў...**

— Пасля вядомага паходу Чырвонай Арміі ў верасні 1939 года нямала заходнебеларускіх літаратараў сталі здабыткам духоўнага жыцця Савецкай Беларусі. Старшыня тагачаснага Саюза савецкіх пісьменнікаў Міхась Лынькоў 10 снежня 1939 года накіраваў у ЦК КП(б)Б дакладную запіску, у якой адзначыў, што ў заходніх абласцях ёсць блізу 100 беларускіх, польскіх, яўрэйскіх пісьменнікаў. Найбольш вядомых ахарактарызаваў: "**Танк Максім**, малады рэвалюцыйны беларускі паэт, найбольш таленавіты з усёй групы заходніх пісьменнікаў. Мае пяць зборнікаў. **Пестрак Піліп**, былы палітзняволены, сядзеў у турме 11 гадоў, добры лірык. Зборнікаў не мае, бо яго не друкавалі... **Машара Міхась**, беларускі паэт, мае 5-7 зборнікаў, батрак. пісаў на сацыяльныя тэмы...".

Трэба дадаць, што Піліп Пестрак свой тэрмін зняволення адбываў у Гарадзенскай турме. Максім Танк распаўсюджваў на тэрыторыі Гарадзеншчыны камуністычныя пракламацыі, газеты і лістоўкі.

М.Лынькоў таксама турбаваўся аб перыядычных выданнях на польскай і яўрэйскай мовах, аб стварэнні асобнага польскага сектара пры Дзяржвыдавецтве, павелічэнне накладу яўрэйскага літаратурна – мастацкага часопіса "Штэрн".

25 верасня 1940 года было створана Беластоцкае аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі на чале з Піліпам Пестраком. Сюды ўвайшоў шэраг польскіх літаратараў левага кірунку. Патрабуецца ўдакладнення звесткі, што ў Гродне пісьменнікаў згуртаваў Сцяпан Майхровіч.

**— Вы не ўзгадваеце Васіля Быкава, які пасля дэмабілізацыі ў 1947 годзе прыехаў на пастаяннае жыхарства ў Гародню, працаваў у мастацкіх майстэрнях, крыху стыль - рэдактарам у абласной газеце...**

— Васіль Уладзіміравіч на доўгіх 25 гадоў звязаў свой лёс з нашым горадам. У 1947-1949 пачынаў тут сваю літаратурную дзейнасць, надрукаваў першыя апавяданні ў "Гродзенскай праўдзе". Аднак быў прызваны ў Савецкую Армію (1949 – 1955). З 1956 па 1972 працаваў журналістам, літкансультантам абласной газеты. Абіраўся сакратаром абласнога аддзялення СП БССР (1970 - 1978). У Саюз пісьменнікаў прыняты ў 1959 годзе.



**— І тым не менш, у 1964 годзе абласное аддзяленне ўзначаліў Аляксей Карпюк, сябра творчага Саюза з 1953 года.**

— Тут няма чаму здзіўляцца. У канцы 50-х - пачатку 60-х у Гародні зноў склалася група таленавітых творцаў. Аляксей Карпюк на той час меў кнігі "Дзве сасны", аповесці "Данута", "Пушчанская адысея", зборнік нарысаў "Мая Гродзеншчына".

Літаратурныя здабыткі Васіля Быкава – аповесці "Жураўліны крык", "Трэцяя ракета", "Альпійская балада".

У 1964 годзе ў Саюз пісьменнікаў была прынятая настаўніца Данута Бічэль-Загнетава. Мела зборнікі паэзіі "Дзявочае сэрца", "Нёман ідзе". Анатоль Іверс са Слоніма ў Саюз быў прыняты яшчэ ў 1940 годзе. Меў зборнік вершаў "Песні на загонах" (Вільня, 1939). Міхась Дуброўскі займаўся перакладамі.

Вось такі склад мела Гарадзенскае аддзяленне СП Беларусі ў 1964 годзе. Дадам, што Аляксей Карпюк патрабаваў, каб кожнае пасяджэнне было падрабязна адлюстравана ў пратаколе. Адным словам, любіў працэдуру. Васіль Быкаў праводзіў працу больш разнявolена.

**— Асабіста вы, Аляксей Міхайлавіч, былі прынятыя ў Саюз пісьменнікаў СССР у 1971 годзе. Ці засталася ў памяці гэтая падзея?**

— Рэкамендацыі меў ад Васіля Быкава і Дануты Бічэль-Загнетавай. Адбылася шчырая размова ў аддзяленні. Было патаемнае галасаванне на прыёмнай камісіі ў Саюзе пісьменнікаў. Аднак гэта яшчэ не ўвесь прыём. Прэзідыюм СП БССР павінен быў зацвердзіць рашэнне. Там ставіліся сур'ёзна да новых кандыдатаў. Не ўсе прэтэндэнты атрымлівалі пасведчанне Саюза. Дарэчы, у СП мы "прабіваліся" разам з Юркам Голубам, які цяпер узначальвае наша аддзяленне.

**— 60-я - 80-я гады мінулага стагоддзя быў часам актыўных сустрэч пісьменнікаў з чытачамі...**

— Ставілася задача, каб творчыя асобы мелі цесныя сувязі з жыццём. Наша аддзяленне арганізоўвала семінары для творчай моладзі вобласці, на якія прыязджалі аўтарытэтныя літаратары з Менска. Пісьменнікі ўдзельнічалі ў рабоце літаратурных аб'яднанняў, ладзілі вечарыны, сустрэчы з аўтарамі з Каўнаса, Калінінграда, суседняй Польшчы. Абласное тэлебачанне мела сталыя перадачы "Кнігарня", "Гродзеншчына літаратурная", радыёчасопіс "Заранка". Быў выдадзены альманах "Край мой – Нёман", дзе апублікаваны творы 54 аўтараў Панямоння. Часцяком прыязджалі пісьменніцкія дэлегацыі з былых саюзных рэспублік, наладжваліся Дні літаратуры ў Гародні і вобласці. Мы прымалі чынны ўдзел у гэтых творчых акцыях, шмат ездзілі па вёсках вобласці. З залы заўсёды паступала шмат пытанняў рознага зместу. Гэты дыялог даваў новыя тэмы, вобразы, былі стымулам да працы.

**— У вашым голасе гучаць настальгічныя ноткі...**

— Была выдатная літаратурная практыка. Пісьменнікам неабходна сустракацца з чытачамі, каб пачуць ацэнку свайго твора непасрэдна ад удзельніка сустрэчы, выказаць сваё бачанне праблемы. Шкада, што такія сустрэчы амаль што зніклі. Тут патрэбны агульнае зацікаўленне пісьменнікаў і прадстаўнікоў улады.

**— Ці ёсць творцы, якія могуць сёння сустракацца з людзьмі ў рабочых калектывах, Дамах культуры, інтарнатах?**

— Ёсць. Абласное аддзяленне паступова пашыралася. Напрыклад, у 1988 годзе членамі СП былі ўжо Генадзь Дзмітрыеў, Мар'ян Дукса, Пётр Лісіцын, Алена Руцкая, Марыя Шаўчонак, Гаўрыла Шутэнка, Артур Цяжкі. Пазней - Уладзімір Шурпа, Лідзія Ялоўчык.

Цяпер у аддзяленні 23 асобы. Сярод іх - Ігар Жук, Алесь Чобат, Алег Жамойцін, Мікалай Мікуліч, Рычард Бялячыц, Алесь Якімовіч, Іван Сяргейчык, Сяргей Чыгрын, Людміла Кебіч, Станіслаў Суднік, Іван Пяшко, Зніч, Сяргей Астраўцоў і іншыя. Асобна назаву знакамітага творцу Міколу Арочку, вядомага паэта і краязнаўца Васіля Супруна. Так што патэнцыял у нас значны. Членамі нашага аддзялення маглі б стаць Юрась Пацюпа, Юры Гуменюк, Ала Петрушкевіч, Аліна Астравух, Анатоль Раманчук, Уладзімір Васько...

Праўда, адначасова развіваецца "літаратура", якая не вытрымлівае крытыкі. Друкуецца нямала зборнікаў за сродкі аўтараў, у якіх няма паэзіі, прысутнічае хутчэй яе імітацыя. З такога зборніка, калі ставіцца да якасці змешчаных твораў патрабавальна, можна выбраць з дзесятак вершаў, вартых публічнай увагі. Астатняе – вершаваныя практыкаванні. Цяпер раздолле графаманам. Яны могуць задаволіць свае амбіцыі праз выдавецтвы. Гэтаму спрыяюць часам пісьменнікі, якія пішуць да такіх кніг прадмовы, адчыняюць дзверы ў літаратуру чалавеку без здольнасцей. Сапраўдныя мастацкія творы таленавітых пісьменнікаў "размываюцца" у акіяне пасрэднасці.

Пасля аўтар пачынае збіраць рэкамендацыі для ўступлення ў Саюз. Пахваляецца выдадзеным уласным творам.

Сёння ў Беларусі больш за 500 членаў СП. Добра гэта ці кепска?Так наўрад ці варта ставіць пытанне. Справа не ў колькасці. Зрэшты, і колькасць – пэўны паказчык інтэнсіўнасці літаратурнага развіцця. Увогуле ж пісьменніка нараджае Бог і родная зямля.

**— Таленавітыя маладыя літаратары вобласці спрабуюць сілы?**

— Гэтаму спрыяе рэгулярная літаратурная старонка ў газеце "Гродзенская праўда". Тут моладздю апякуецца Юрка Голуб. Ва універсітэце імя Янкі Купалы працуе літаб'яднанне "Наднёманскія галасы", работай якога кіруе Святлана Тарасава. Трэба вярнуць да жыцця семінары творчай моладзі, якая жыве ў рэгіёне, друкуецца ў сваіх раённых газетах, рэспубліканскім друку.

40-годдзе аддзялення Саюза пісьменнікаў для мяне не толькі гістарычны факт. Гэта адзінства мінулага і сучаснага, багатая творчая спадчына пісьменнікаў Гарадзеншчыны рознага часу. Ёсць у каго вучыцца, ёсць каму перадаваць здабыткі.

Гутарыў
**Антон Лабовіч.**

## Шчодрая Случчанская зямля на таленты

Не злічыць, напэўна, колькі паэтаў і празаікаў узгадавала яна. Пісьменнікі з вялікім задавальненнем наведваюць свае родныя мясціны і сустракаюцца з землякамі. Вось і сёлета ў традыцыйны Тыдзень дзіцячай і юнацкай кнігі на сустрэчу з юнымі чытачамі ў бібліятэку-філіял № 1 Слуцкай гарадской ЦБС прыехалі пісьменнікі-землякі: Павел Місько і Вячаслаў Корбут.

Не толькі на Случчыне, але і па-за яе межамі, добра вядома імя пісьменніка Паўла Місько, аўтара знакамітых твораў: "Прыгоды бульбобаў", "Навасёлы", "Эрпіды на планеце зямля", "Прыйдзі, дзень залацены!"

На мерапрыемстве Павел Місько расказаў пра свой жыццёвы і творчы шлях, адказаў на шматлікія пытанні аўдыторыі, пазнаёміў з планамі на будучае. Аўтар падараваў бібліятэцы свае кнігі з аўтографамі.

Паэт Вячаслаў Корбут, дырэктар літаратурнага фонда Саюза пісьменнікаў, чытаў уласныя вершы і байкі, адказваў на пытанні юных чытачоў, распавядаў аб працэсе выдання кнігі.

Пісьменнікі-землякі пажадалі прысутным добра вучыцца, любіць кнігу- самую глыбокую крыніцу пазнання свету. Павел Місько і Вячаслаў Корбут выказалі юным чытачам, што захоўваюць удзячнасць Случчанскаму краю, адкуль пачалася іх жыццёвая сцяжына, і надалей будуць рады сустрэчам з чытачамі ў родным горадзе.

***Загадчыца бібліятэкі-філіяла № 1 Слуцкай гарадской ЦБС Сасіновіч Г.В.***

